**Выдавец:**
Прыватнае прадпрыемства «Дарога на Вільню плюс», пасв. №391053932, выд. 12.10. 2009 г. Глыбоцкім РВК.
Перыядычнасць – 1 раз на тыдзень, дзень выхаду – чацвер.

Штотыднёвая газета

vglybokaye@tut.by

# Вольнае Глыбокае

Выдаецца са снежня 1994 года

30 (590) 28 ліпеня 2011 года

Кошт свабодны.



Абвесткі з хатняга тэлефона ў «Вольнае Глыбокае».
**Дзённа й ночна** на нумар 166

**Рэклама ў газеце «ВГ», тэл.: 8(029) 813-99-99**

**Докшыцкі раён**

# У вёсачкі з’явіўся шанец

■ Станіслаў Раманчук

**Глыбінка ужо не здзіўляе мноствам пустуючых і напаўразбураных вясковых хат, хоць такія трухлявыя закінутыя дамы пачалі актыўна знасіць.**

Іншая справа – даволі вядомая, хоць і невялікая, вёсачка Янукі Докшыцкага раёна. У гэтым населеным пункце, размешчаным паблізу старажытнага і ўвесь час дзеючага касцёла ў Ваўкалатах, жыве жменька людзей, аднак увагу ёй удзяляюць значную. Уся справа ў тым, што адсюль паходзяць продкі цяперашняга лідара суседняй Украіны Віктара Януковіча. Гэты палітычны дзеяч наведваўся сюды, калі яшчэ быў дзеючым кіраўніком украінскага ўрада.

Тады завязалася знаёмства з мясцовымі дзецьмі, якія гасцявалі ў яго сям’і ў Кіеве, адпачывалі на Чорным моры пры падтрымцы ўкраінскага пасольства ў Мінску. Нядаўна ў раёне зноў пабываў адзін з памочнікаў Прэзідэнта Украіны. Ён агледзеў родныя мясціны продкаў свайго шэфа, папрасіў нават адправіць у Кіеў электроннай поштай праграму развіцця і адраджэння Янукоў. Да гэтай вёсачкі ўжо пракладзена новая асфальтавая дарога, добраўпарадкаваны пад’езд да мясцовых могілак. Ды і паўсюдна пастараліся навесці парадак, ачысцілі ваколіцы ад хмызняку і кустоў. Як-ніяк, а розныя замежныя дэлегацыі сталі ездзіць. Праўда, гэту вёску можа выратаваць ад запусцення толькі стварэнне агратурыстычнага цэнтра, бо мясціны прыгожыя. Плануюць тут, на радзіме продкаў В. Януковіча, закласці і сад.

**Пастаўскі раён**

# “Інiта” прапісалася на радзіме

■ Кастусь Александровіч

**Найчасцей пра прадпрымальных людзей у нас гавораць негатыўна, бо большасць з іх займаюцца толькі дзейнасцю “купі-прадай”.**

Аднак разам з тым прыбаўляецца сапраўдных бізнесменаў і ў вытворчай сферы. Вось і ў Паставах на адной з цэнтральных вуліц горада неўзабаве адкрыецца фірменны магазін прыватнай фірмы па пашыве мужчынскага адзення “Інiта” з міні-кафэ, дзе будуць прымацца і заказы. Дагэтуль яе 58-гадовы гаспадар Сяргей Рубашко ўжо меў паспяховае швейнае прадпрыемства ў беларускай сталіцы, якое здолела выйсці са сваёй прадукцыяй і на замежныя рынкі. У прыватнасці, шыкоўныя фракі і смокінгі “Інiта” пастаўляе ў Галандыю. Але выпускніка мясцовай СШ №1 дзіўным чынам цягнула на сваю радзіму. А калі на яго роднай вуліцы з’явіліся пустуючыя памяшканні былой абласной псіхбальніцы, то сумненняў не засталося. Мясцовае кіраўніцтва перадало фірме свабодныя плошчы, дзе правялі еўрарамонт, устанавілі сучаснае абсталяванне для закройнага і пашывачнага цэхаў. Па конкурсу сюды набралі спрактыкаваных швачак і раскройшчыц, якія выконваюць свае аперацыі якасна і ўмела і добра зарабляюць. Галоўнае, што па якасці гэта прадукцыя не ўступае замежным касцюмам, штанам і паліто, але цэны для айчынных спажыўцоў меншыя. Паколькі падыход да швейнай справы ў калектыва еўрапейскі, адных заказаў на Галандыю фірма “Інiта” мае на 4 гады наперад.

**Глыбоцкі раён**

# На панадворак да глыбачан

■ Кастусь Александровіч

**Па існуючай традыцыі на прайшоўшым у абласным цэнтры юбілейным фестывалі “Славянскі базар” знайшлося месца і для народных майстроў, аб’ектаў гандлю і грамадскага харчавання.**

На адной з самых стыльных і прыгожых у горадзе вуліцы Пушкіна размясціўся гасцінны панадворак з Глыбоцкага раёна. Мясцовае райпа зноў спецыяльна прывезла і абсталявала пад мінуўшчыну цэлую карчму пад адкрытым небам “У Ігната”. Некалькі гадоў назад кааператары з Глыбоччыны парадавалі падобным панадворкам у суседніх Паставах гасцей і ўдзельнікаў праходзіўшых тут Дзён беларускай пісьменнасці. На гэты раз такі фестывальны гандлёвы рад атрымаў найвышэйшую ацэнку гараджан, бо быў аформлены з любоўю да роднага краю і адлюстроўваў багацце зямлі. Акрамя ягад, грыбоў і памідораў цяжка было не затрымацца і каля суседняй “Мясной лаўкі” з імправізаванай жароўняй мясакамбіната. Віцябляне і госці фестывалю з задавальненнем частаваліся якаснымі і смачнымі каўбаскамі і іншай натуральнай прадукцыяй і слухалі народныя мелодыі. Абслугоўвалі наведвальнікаў панадворка глыбачане ветліва, са шчырымі усмешкамі, а лепшыя мясцовыя творцы таксама ўдала выдзяляліся сярод калег у размешчаным непадалёк Горадзе майстроў.



# Лічба нумара

**13,6** столькі мільярдаў рублёў, па звестках агенцтва БЕЛТА, было ўкладзена ў правядзенне ХХ міжнароднага фестывалю мастацтваў “Славянскі базар у Віцебску” толькі з дзяржбюджэту Беларусі. Зразумела, сёлета на фоне адчувальных праблем на айчынным валютным рынку, дэвальвацыі нацвалюты і пошуку мер па выхадзе з крызісу адных гэтых сродкаў для яго паспяховага правядзення было недастаткова. Было выдзелена каля 3 млрд. рублёў з рэзервовага прэзідэнцкага фонду, яшчэ 300 млн. рублёў выдаткавала Міністэрства культуры РБ. Сваё плячо падставіў бюджэт Саюзнай дзяржавы (адтуль паступіла 25 млн. расійскіх рублёў, аднак з гэтай сумы доля беларусаў больш істотная – амаль 16 млн.).

Калі з фінансавымі праблемамі сёлета неяк разабраліся, то шэраг палітычных супярэчнасцей з расіянамі ніяк не ўдалося схаваць. Упершыню галоўная цырымонія адкрыцця фестывалю не транслiравалася ў прамым эфіры, а была паказана ў запісе. Сапраўднай сенсацыяй стала адсутнасць віншавання ад расійскага Прэзідэнта гасцям і ўдзельнікам “Славянскага базару”. Такое віншаванне ў Віцебск украінскі лідар Віктар Януковіч даслаў. А 10 гадоў назад на сцэну амфітэатра выходзілі разам тры палітыкі – Пуцін, Кучма і Лукашэнка, тады тут ззяла зорка расійскай эстраднай прымадоны Алы Пугачовай.

На гэты раз ужо і беларускія тэлеканалы гавораць пра адсутнасць прыбытання расійскага Прэзідэнта і нагадваюць, што Дзмітрый Мядзведзеў і 22 чэрвеня не з’явіўся ў Брэсце. Ніякай рэакцыі з Крамля не было, калі праводзіўся на фестывалі і Дзень Саюзнай дзяржавы, а вось расійскі міністр фінансаў Аляксей Кудрын у Лондане не прамінуў публічна пакрытыкаваць беларускіх калег, што яны не прымаюць дастатковых мер па выхадзе з крызісу і толькі “заганяюць хваробу глыбей”. Больш за тое, расійскі віцэ-прэм’ер сказаў, што пры такіх падыходах далейшая крэдытная дапамога Беларусі з боку МВФ і ЕўрАзЭС можа больш не аказвацца.

Праз некалькі дзён ужо беларускі лідар увязаўся ў палеміку наконт фінансавання “Славянскага базару” і мэтазгоднасці яго далейшага існавання. Каб не было значнай дзяржаўнай падтрымкі фестывалю, то не пабывалі б у Віцебску за 20 гадоў, пачынаючы з ліпеня 1992 года, больш за 55 тысяч удзельнікаў з 60 краін свету, а на галоўнай сцэне цяпер пад дахам Летняга амфітэатра не адбылося б 316 канцэртаў. Аднак толькі сёлета ўдалося выйсці на пакрыццё 60 % фестывальных расходаў за кошт пазабюджэтных крыніц.

Нягледзячы на крызіс, людзі імкнуцца пабачыць ужывую сапраўднае мастацтва і яркіх выканаўцаў. Сёлета ад продажу білетаў зарабілі рэкордную суму – 6,5 млрд. рублёў, што на 15 % болей, чым сабралі сродкаў у 2010 годзе. Прыемна было арганізатарам бачыць сапраўдныя аншлагі, бо датэрмінова раскупілі 92 % квіткоў на канцэрты. Увогуле, здзівілі і спонсары, якія выдаткавалі на правядзенне фестывалю велізарную суму – 2,75 млрд. рублёў. Яшчэ дапамагло тое, што турфірмы дапамаглі прадаць каля паловы білетаў, праз Інтэрнэт іх найбольш актыўна набывалі грамадзяне Германіі, Літвы, Расіі і Украіны. Між тым, 3 сольныя праекты праграм былі адменены (гумарыста М. Галкіна, шоу А. Агурбаш і харэаграфічныя мініяцюры Б. Эйфмана).

Знайшліся ганарары ў валюце за выступленні зорак замежнай эстрады, на аплату працы членаў журы, а вось беларускія выканаўцы былі зноў дыскрымініраваны: ім выплацілі ганарары за канцэрты ў сваёй нацыянальнай валюце і не па камерцыйным курсе. Беларусы здзівілі ўсіх сваёй шчодрасцю: розныя падарункі атрымалі ўсе без выключэння былыя канкурсанты і партнёры фестывалю. Яшчэ адным рэкордам стала, што за рэкламу фестывалю яго арганізатарам рэкламадаўцы заплацілі 1 млрд. рублёў. Некаму “Славянскі базар” вельмі падабаецца, іншыя яго на дух не пераносяць, а шэраг віцяблян на гэты час стараюцца з’ехаць з горада, але гэта часцінка нашай гісторыі. Няма сумнення, што фестываль будзе жыць і надалей, бо падмуркам гэтага застаюцца поўныя залы і імкненне людзей стаць сведкамі гэтых дзён, напоўненых радасцю ад сустрэчы з мастацтвам.

**Íàäâîð'å ¢ Ãëûáîê³ ì** www.rp5ru

| | чацвер 28.07. | | | пятн. 29.07.11 | | | | сб. 30.07.11 | | | | нядз. 31.07.11 | | | | пн.01.08. | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мясцовы час | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 | 21:00 | 03:00 | 09:00 | 15:00 |
| Тэмпература, °С | +22 | +24 | +21 | +16 | +19 | +23 | +21 | +16 | +18 | +22 | +20 | +15 | +19 | +25 | +21 | +16 | +18 | +21 |
| Ціск, мм | 744 | 743 | 743 | 743 | 742 | 742 | 742 | 742 | 742 | 742 | 741 | 741 | 741 | 740 | 740 | 740 | 741 | 741 |
| Вільготнасць, % | 92 | 74 | 82 | 95 | 85 | 60 | 76 | 97 | 86 | 59 | 78 | 99 | 86 | 49 | 75 | 100 | 94 | 81 |
| Вецер м/сек | Ю-З 1 | С-З 4 | З 3 | С-З 4 | З 5 | Ю-З 3 | Ю-З 2 | С-З 4 | З 4 | С-З 4 | С-З 2 | С-З 3 | С-З 2 | С 4 | С-З 4 | С 4 | С 3 | С-В 5 |

## Дзень за днём

**Сёлета Беларусь летам зноў сутыкнулася з істотным недахопам цэменту для новабудоўляў і для патрэб насельніцтва. Краіна ўступіла ў перыяд вялізных праблем і нават гібелі слабай часткі айчыннай эканомікі. У параўнанні з маем у чэрвені рост цэн у нас запаволіўся, аднак за паўгоддзе прадукты харчавання для беларусаў падаражэлі на 35-36 %, рост інфляцыі за гэты перыяд перавысіў 36 %. Такі абвал і зніжэнне даходаў насельніцтва нібыта перанёс дзяржаву ў 90-я гады мінулага стагоддзя. Больш як 700 адораных вучняў і студэнтаў былі заахвочаны грашовымі прэміямі спецыяльнага фонду кіраўніка краіны.**

# Важнейшыя навіны свету

**ЗША.** Рэзка ўпалі даходы Ірана і Венесуэлы ад экспарту нафты пасля рашэння амерыканцаў прадаць на ўнутраным рынку 60 млн. барэляў са сваіх рэзервовых запасаў.

**Грэцыя.** Большасць экспертаў негатыўна ацэньваюць будучае краіны, чые даўгі ставяць пад удар фінансавую сістэму Еўропы і ўсяго свету, ёй трэба рэзка зменшыць бюджэт.

**Афганістан.** Услед за Бен Ладэнам войскі ЗША за апошнія 1,5 гады знішчылі яшчэ 19 з 30 лідараў тэрарыстаў "Аль-Каіды", у школы пайшлі вучыцца 7 млн. афганскіх дзяцей.

**Украіна.** За адмову Расіяй паставак больш таннага газу шэраг украінскіх палітыкаў загаварылі аб магчымасці размяшчэння на сваё тэрыторыі элементаў амерыканскай ПРО.

**Швейцарыя.** Аналітыкі буйнога банка UBS заявілі, што амерыканскі долар у бліжэйшыя 25 гадоў можа страціць статус сусветнай рэзервовай валюты, сёлета $ абясцэніўся на 5 %.

**Кітай.** Краіна сутыкнулася з рэкордным за апошнія 3 гады ростам цэн на харчаванне – за 5 месяцаў 2011 года адразу на 11,7 %, на нехарчовыя тавары – на 2,9 % пры росце ВУП 9,7 %.

**Сенегал.** Пасля бурных акцый пратэсту 85-гадовы прэзідэнт Абдулае Вадэ адклікаў папраўку ў Канстытуцыю, якая б дазволіла яго сыну прыйсці да ўлады пасля яго.

**Францыя.** Упершыню новым дырэктарам-распарадчыкам МВФ стала жанчына Крысцін Лагард, яна хоць і не мае эканамічнай адукацыі, але вельмі дасведчаны спецыяліст у фінансах.

**Польшча.** Да канца года і свайго старшынства ў ЕС краіна рашыла завяршыць перамовы аб зоне свабоднага гандлю з Украінай і пачаць аналагічныя з Малдовай і Грузіяй.

**ЗША.** Кампанія Apple завяршыла тэсціраванне iPhone 4S/5 новага пакалення з 2-х"ядзерным працэсарам, падтрымкай адначасова сетак GSM і CDMA, у продажы будзе з верасня.

**Турцыя.** Кампанія Turkcell аб'явіла аб каркатывах свайго бізнес-плана life у Беларусі, бо з-за дэвальвацыі рубля яе страты па выніках 2-га квартала наблізіліся да 200 млн. долараў.

**Карэя.** Кампанія Samsung прадставіла сваю новую распрацоўку, нетбук NC2 15S, які зараджаецца ад сонечнага святла за 2 гадзіны на 60 хвілін працы, АКБ дзейнічае 3 гады.

**Малдова.** Паліцыя ў сталіцы краіны затрымала 6 удзельнікаў небяспечнай міжнароднай злачыннай групоўкі з кантэйнерам урану-235, з якога можна зрабіць і атамную бомбу.

**Кітай.** Вялікі дэфіцыт электраэнергіі прымусіў урад перавесці многія прадпрыемствы на начны графік работы, у 15 правінцыях паднялі тарыфы на яе для юрыдычных асоб.

**Бангладэш.** У свяшчэннай сажалцы мусульманскага храма адзін з кракадзілаў насмерць загрыз паломніцу, якая зайшла ў ваду памаліцца, 3 гады назад так загінуў тут мужчына.

# Падзеі, пра якія гаворыць Беларусь

**Мінск.** Па дадзеных Нацбанка, у маі беларусы прадалі банкам 161,4 млн. $, што амаль на 400 млн. меней, чым у маі год назад, аднак стаў квітнець "чорны" валютны рынак.

**Брэст.** Прыватная фірма "Савушкаў прадукт" пагадзілася ўзначаліць Нацыянальную малочную кампанію і далучэнне да яе дзяржаўных малзаводаў Бярозы, Кобрына, Лунінца.

**Зельва.** ВА "Белэнерга" пасля адмовы палякаў узводзіць тут электрастанцыю пачала перамовы з кампаніямі Чэхіі, Кітая, РФ, Англіі, каб да 2015 года ажыццявіць гэты праект.

**Мінск.** Ацэнку Мінскага аўтазавода, як паведаміў гендырэктар карпарацыі "Растэхналогіі" С. Чэмезаў, правядзе аўдытарская кампанія Ernst&Young у рамках стварэння СП з КамАЗ.

**Слуцк.** Нават пасля хвалі ажыятажнага попыту запасы нерэалізаванага цукру склалі на мясцовым цукровым камбінаце 191 % сярэднямесячнага аб'ёму вытворчасці.

**Гродна.** У філіяле мясакамбіната СВК "Парэчанка" на закінутай раней ферме заняліся вырошчваннем экзатычных птушак фазанаў, 2 тысячы птушанят завезлі сюды з Польшчы.

**Абчак.** Пляцоўку ЗАТ "Юнісон" за 18 км ад Мінска беларусы прапанавалі Расіі для стварэння айчыннага аддзялення па выпуску расійскіх ё-мабіляў замест іранскіх аўто.

**Гомель.** Па ацэнках спецыялістаў, з-за адсутнасці дажджоў вобласць страціла 10 % вырашчанага ўраджаю збожжа, хоць плошчы пад зерневыя, кукурузу выраслі на 13-37 %.

**Буда-Кашалёва.** Услед за 2-гадовай дзяўчынкай у абласную бальніцу даставілі на лячэнне 3-гадовага хлопчыка з раёна з траўмамі галавы, пераломам пляча ад падзення тэлевізара.

**Гатава.** У прыгарадзе сталіцы выявілі прапіску людзей у яшчэ недабудаваным доме, у адным з інтэрнатаў зарэгістравалі каля 400 чалавек, якія ніколі ў ім не пражывалі.

**Мінск.** Газета "Камп'ютарныя весткі" першай у Беларусі адмовілася ад сваёй папяровай версіі і стала выходзіць толькі ў электронным інтэрактыўным варыянце ў фармаце PDF.

**Добруш.** Кіраўніцтва Рускай праваслаўнай царквы ўхваліла ініцыятыву пабудаваць на мяжы граніц Беларусі, РФ і Украіны праваслаўны храм з духоўным цэнтрам трох краін.

**Масюкоўшчына.** Адзіны ў РБ 8-ы дысцыплінарны батальён для асуджаных вайскоўцаў будзе ліквідаваны, замест гэтага ўвядуць арышт на гаўптвахце тэрмінам да паўгода.

**Баранавічы.** Прыватная мэблевая фірма горада "Лагуна" за 9,8 млрд. рублёў набыла на аўкцыёне дзяржпакет акцый Слуцкай мэблевай фабрыкі для пашырэння свайго бізнесу.

**Мінск.** Агенцтва "Мьюзік Стар" канчаткова адмяніла канцэрт вядомага нямецкага спевака Томаса Андэрса, аднак не вяртала грошы гледачам, якія купілі білеты на шоу.

## У Віцебскай вобласці жадаюць пабудаваць сетку заправак для электрамабіляў




■ Сяржук Серабро

**Распрацаваны інвестыцыйны праект па будаўніцтве ў Віцебскай вобласці сеткі аўтазаправак для электрамабіляў. Кошт праекта - адзін мільён даляраў.**

Пад аўтазаправкі плануецца як будаваць, так і прыстасоўваць існыя будынкі. Мэта праекта: прасоўванне інавацыйных і экалагічных тэхналогій для развіцця інфраструктуры краіны і для стварэння цікавасці ў заходніх краін.

"Народным навінам Віцебска" атрымалася пагутарыць з аўтарам інвестыцыйнага праекта. Максіму Саўчанку 33 гады, ён скончыў Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт па спецыяльнасці "Прамысловае і грамадзянскае будаўніцтва", цяпер працуе ў адной з праектных арганізацый Віцебска.

Па словах Максіма, у першую чаргу інфраструктура будзе ствараецца на базе існых аб'ектаў - гіпермаркетаў, бізнесцэнтраў, жылых комплексаў, дзе ёсць у наяўнасці падземны паркінг. Менавіта гэтыя паркінгі будуць абсталёўвацца прыладамі для зарадкі электрамабіляў.

Аўтар праекта мяркуе, што такі падыход дазволіць на пачатковым этапе пакрысць запатрабаванне заправак ва ўсіх буйных гарадах. На другім этапе можна ўжо разважаць пра будаўніцтва новых ці даабсталёўванні традыцыйных аўтазаправак сістэмамі электразарадкі.

Спадара Саўчанку не бянтэжыць поўная адсутнасць у Беларусі электрамабіляў. Магчыма, з'явіся электразапраўкі - з'явяцца і электрамабілі, лічыць ён, а пры наяўнасці дадзенага сэрвісу наша краіна зможа прыцягнуць экатурыстаў на сваіх экааўтамабілях з Еўропы.

На жаль, аўтар не змог назваць нам час, за які акупіцца яго праект. Па яго меркаванні, гэты доўгатэрміновы праект разлічаны на людзей, а не на тое, каб "па хуткім адбіць" укладзеныя грошы. На звышпрыбытку фундатарам у найбліжэйшай перспектыве разлічваць не варта.

Зрэшты, Максім Саўчанка ўпэўнены, што сетка заправак для электрамабіляў стане акупляльнай за досыць кароткі тэрмін. Акрамя таго, ён лічыць, што патрэбен комплексны падыход - арганізацыя паставак і продаж электрамабіляў па зніжаных коштах, стварэнне службаў таксі і даставкі на электрамабілях і гэтак далей.

Як бачна, планаў у спадара Саўчанкі звышдастаткова, ну а для пачатку іх рэалізацыі яму трэба знайсці адзін мільён даляраў. Дарэчы, у чэрвені гэтага года ў Расіі пачаліся афіцыйныя продажы першага электрамабіля - Mitsubishi i-MiEV – і адкрылася першая электразапраўка ў Маскве.

# Панарама ўнутрыабласных падзей

**Віцебск.** У Гаспадарчым судзе Віцебскай вобласці на 29 % павялічылася колькасць заяў аб прызнанні эканамічнай няздольнасці (банкрутцтве), пра гэта заявілі 84 калектывы.

**Наваполацк.** Новыя ўмовы закупак расійскай нафты з поўнай выплатай экспартных пошлін у бюджэт РФ не дазваляюць ААТ "Нафтан" выйсці на прыбытковую работу.

**Полацк.** З-за недахопу 850 млн. рублёў на ўрочышчы Пяскі не адкрылі мемарыяльны комплекс у памяць ахвяр фашызму, работы па яго ўзвядзенні тут толькі пачаліся.

**Віцебск.** Як падарунак ад горада ключы ад новых камфартабельных кватэр атрымалі адразу 10 маладых гараджан з ліку дзяцей-сірот.

**Верхнядзвінск.** На чыгуначнай станцыі Бігосава пагранічнікі зноў выявілі буйную партыю – 55 каробак кантрабандных цыгарэт беларускай вытворчасці – пры спробе вывазу ў Латвію.

**Полацк.** У наступным годзе пачнецца будаўніцтва на Заходняй Дзвіне Полацкай ГЭС, першай з каскаду 5 гідраэлектрастанцый, цяпер рыхтуецца праектная дакументацыя.

**Орша.** Паблізу музея-запаведніка Янкі Купалы ў Ляўках прайшло абласное свята паэзіі "Звіні, спявай, купалаўская ліра", выстава кніг літаратараў вобласці, вырабаў майстроў.

**Сянно.** Адной з самых добраўпарадкаваных у райцэнтры стала тэрыторыя вакол канторы мясцовай ПМК № 64, дзе будаўнікі пасадзілі дрэўцы для парку, заасфальтавалі дарожкі.

**Віцебск.** Без падтрымкі з дзяржбюджэту юбілейны фестываль "Славянскі базар у Віцебску" мог бы і не адбыцца, аднак доля Беларусі ў яго фінансаванні вырасла ў 2 разы.

**Паставы.** З-за росту страт прыгарадных перавозак аўтапарк № 17 да канца лета адмяніў рэйс на Пожарцы, яшчэ па 12 маршрутах аўтобусы перасталі хадзіць 3-4 дні на тыдні.

**Глыбокае.** Усяго за 1 базавую велічыню перадалі інвестару з Даніі пуставаўшы калгасны будынак, дзе намечаны выпуск паліўных пелетаў і брыкетаў, кошт праекта 1,5 млн. еўра.

**Друя.** Жыхароў гарпасёлка і ваколіц шакіраваў факт гібелі ў сажалцы трох дзяўчынак ва ўзросце 3, 6 і 8 гадоў з прыкметамі магчымага іх гвалтоўнага ўтаплення, ідзе следства.

**Полацк.** Па прычыне цяжкага фінансавага становішча мясцовы ФК "Полацк" ледзь не зняўся з чэмпіянату РБ па футболе, на грані выжывання і каманда 2-й лігі ФК "Орша".

**Орша.** Дзікім чынам звёў рахункі з жыццём 40-гадовы жыхар горада, які кінуўся пад праходзячы грузавы цягнік на чыгуначным перагоне Коханава-Орша.

**Віцебск.** З-за нізкага попыту на білеты адмянілі сольны канцэрт заслужанай артысткі РБ Анжалікі Агурбаш, удзельнічаць у зборных канцэртных праграмах яна адмовілася.

*Служба інфармацыі "ВГ".*

# А ці быў той Стары Горад?... Быў!

Ул. Скрабатун

**У Глыбокім заміж кавярні "Спэйс" адкрылася новая – "Старый город". Абняць і плакаць! Не! Аўтар дзвюма рукамі падтрымлівае гэты назоў! Прыехалі людзі ў Глыбокае... Ідуць па горадзе... Во! Кавярня "Старый город"! Зойдзем? Зойдзем! ... Добры назоў! Прываблівы!**

Чаму абняць і плакаць? Зламалі, пакрышылі, знеслі той Стары Горад. Усе, каму не лянота была, спрычыніліся да гэтага. Найперш заезджыя глыбоцкія чыноўнікі, для якіх Глыбокае было толькі трамплінам у кар'еры: Глыбокае-Віцебск-Мінск-Масква. Ну й пачалі бурыць! Беразвецкую царкву, аўстэрыю, Старое Глыбокае…

Што той Стары Горад у Глыбокім! Ездзіце ў Ленінград, у Маскву… А нам тут патрэбны вялікі пляц і Дом Саветаў, які будзе вышэй царквы і касцёла.

Гэта цяпер – хто б мог падумаць раней – Глыбокае сталася "турыстычнай Мекай". Беларусы адчулі сябе грамадзянамі незалежнай дзяржавы і зацікавіліся яе гісторыяй. Едуць да нас: у Паставы, Лучай, Мосар, Браслаў, Лужкі, Германавічы, Друю… А мы далей: Наваградак, Нясвіж, Мір…

Сам аднойчы палічыў: у суботу і нядзелю ў Глыбокае прыязджае да 10 турыстычных аўтобусаў. Нямудрыя падлікі даюць такі вынік: 20 аўтобусаў х 40 чалавек = 800 чалавек за два выхадныя дні! А за лета? 800 х 13 = 10 400. Калі прыплюсаваць сюды вясну – красавік-травень, і восень – верасень-кастрычнік, то лічба гасцей горада можа сягаць да 30 000.

І ўся гэтая арава прыязджае з пайкай у торбачцы! Харчавацца ў нас няма дзе! Нават кавы адведаць не выпадае. У «Неоне»? А турысты скардзяцца, што на дзвярах часта вісіць шыльда – «Спецабслугоўванне». За апошнія 20 гадоў ні камерсанты, ні «общепит» так нічога і не вынайшлі. Хаця, здаецца, усё так проста: пастаў на пляцы 17 Верасня парасоны, зэдлікі і сталы прастмасавыя ды палатку з мікрахвалевай печкай...

Наогул, "Стары Горад" пішацца з вялікай літары ў два словы. Як і Старая Рыга (Vec Riga), Старое Места (Stare Miasto) у Варшаве… Бо гэта досыць лакалізаванае месца і гістарычны панятак. Самая старая частка горада, а не ўвесь горад. Зрэшты, "Стары Горад" для Беларусі – нетыповая назва. Тыповая – Старое Места. У Маладзечне, напрыклад. Таму пад Старым Местам (Старым Горадам) у Глыбокім аўтар разумее цяперашні Цэнтральны пляц і прылеглыя да яго бочныя вуліцы. Тыя, хто назваў кавярню "Старый город", дзе слова "город" – з малой літары, праўдападобна, уяўляюць так: Глыбокае – стары горад. Без усяляй гістарычнай лакалізацыі. Іх права!

Ёсць адна загадка Старога Горада. Я доўга думаў, чаму Алег Тарыкаў, аўтар кнігі "Світанкі ў праддонні азёраў", называе глыбоцкі кінатэатр перабудаваным замкам? А запытаць у самога Алега тады не паспеў. Ён адышоў у вечнасць. Так, кінатэатр стаіць на месцы замка Радзівілаў, але гэтага мала, каб яго назваць "перабудаваным замкам". Ён узведзены ў 1920-х гг. як кінатэатр "Палёнія". Праўда, быў яшчэ адзін будынак, экспертыза якога паказала, што ён узведзены дзесьці ў 1650-1710 гг. А гэта якраз тыя гады, калі існаваў глыбоцкі замак. Натуральна, як і трэба было чакаць, у 2004 годзе глыбоцкія ўлады санкцыянавалі знос апошняй пабудовы ад замка Радзівілаў. Цяпер там "Эліс".




Дык вось, аднойчы Аляксандр Сяргеевіч Калбасіч, былы начальнік газавай гаспадаркі раёна, паведаміў аўтару цікавы факт. Па словах спадара Калбасіча, пад цяперашнім офісам "ГлыбокаеРайГаз" знаходзяцца падвалы. Муроўку падвалаў ён ахарактарызаваў як "крапасную", з паўцыркульнымі скляпеннямі. Унутры падвалаў была студня. – Мы кідалі ў студню каменьчык і лічылі: раз, два, тры, чатыры, пяць, – казаў Аляксандр Сяргеевіч. – А потым чулі – бульк! Каменьчык дасягнуў паверхні вады. Меркавана, паверхня вады ў студні была роўнай паверхні вады ў возеры Кагальным,– рабіў высновы спадар Калбасіч.

Няўжо гэта падвалы замка Радзівілаў!? Лагічна, што ў замку маглі быць падвалы. Трэба ж было вытрымліваць аблогу непрыяцеля: лячыць параненых, спатоліць смагу, харчавацца… А дзе, як не ў падвалах, гэтым займацца, не пад выбухамі ж ядраў ад маскальскай артылерыі.

Гадоў сем таму мы (краязнаўцы) прасілі дазволу ў новага начальніка газавай гаспадаркі агледзець тыя падвалы… І ведаеце, што начальнік сказаў? Не здагадаецеся! – Мы з апазіцыяй не супрацоўнічаем! Не дазволіў. Ну, так, вывучаць гісторыю горада і раёна – апазіцыйная дзейнасць! І вы хочаце, каб у нас не бурылі помнікі даўніны?

Аўтар спраўдзіў інфармацыю ў аднаго знаёмага інжынера з газавай гаспадаркі. Сапраўды, там была падвальная студня. У бытнасць існавання ў будынку фотаатэлье ў гэтую студню злівалі рэактывы. Цяпер там – у падвалах – зроблены «еўрарамонт». Абшылі гіпсакардонам, усё выглядае простакутна, ніякіх «крапасных» скляпенняў не ўбачыш. Захоўваюцца тут розныя паперы. Студню замуравалі...

Не патрэбная Глыбокаму гісторыя! Не патрэбны быў і Стары Горад. У Маладзечне, напрыклад, некалі была створаная адмысловая камісія з краязнаўцаў і гісторыкаў. І вынік вядомы! Прыедзьце і пагледзіце, як старанна рэстаўруецца да Дажынак тое Старое Места...



Глыбокае, 1975 г. Гэтыя будынкі на Азёрнай вуліцы памятаюць бадай ўсе, каму цяпер за 40 гадоў ад нараджэння. Вайну адстаялі, захаваліся. Ну, ці не Стары Горад! І турыстам было б сёння што паказаць... Знеслі! *Фота Уладзіміра Скрабатуна.*



Глыбокае, 1930-я гг. Рынкавы пляц Касцюшкі. Цяпер на месцы пляца – 7-павярховы Дом Саветаў. На дальнім плане злева - банк, цяпер тут «Бонус». Захаваўся толькі будынак справа, цяпер – Белзнешэканамбанк.



Глыбокае, 1930-я гг. Вуліца Замкавая (цяпер Леніна). Злева – сёння рэстаран. Захаваліся толькі два будынкі: цяперашні кінатэатр і газавай гаспадаркі (яны справа на дальнім плане). На месцы цяперашняга Цэнтральнага пляца (злева на дальнім плане) у той час было тры вузенькія вуліцы: Азёрная, Ятковая і Замкавая. Цяпер – нічога... *Фота Леанарда Рачыцкага.*



Глыбокае, 1916 г. Вул. Докшыцкая. Сінагога. Правей сінагогі сёння стаіць гасцініца.

# Ушануем св. Ганну – нябесную апякунку жонкі фундатара святыні ў Мосары

**Кс. Аляксей Юркайць,**
*адміністратар парафіі Мосар.*

**Мястэчка Мосар у час валодання графскага роду Роберта і Ганны (з роду Плятэраў) Бжастоўскіх стаў сапраўднай магнацкай рэзідэнцыяй.**

Шляхецкі род Бжастоўскіх гербу Стрэмя належаў да Вялікалітоўскай арыстакратыі. У 1798 г. адна з галін роду атрымала графскі тытул ў Прусіі, які быў пацверджаны ў 1846 годзе ў Расійскай імперыі.

Роберт Бжастоўскі, сын Юзафа, нарадзіўся 7 чэрвеня 1748 года ў мястэчку Міхалішкі Віленскага павета. Ён быў Каралеўскім шамбілянам, палкоўнікам гусарскім, пяцігорскім, потым чашнік ВКЛ у 1787 – 91 гг., кашталян полацкі з 1791 года, маршалак Трыбунала ВКЛ у 1791 годзе. Памёр пасля 1795 года.

У 1775-90 гадах Бжастоўскія пабудавалі прыгожы палац у стылі класіцызму, а ў 1792 годзе фундушам у 1000 дукатаў чырвонага золата яны фундавалі каталіцкую святыню пад тытулам святой Ганны, нябеснай апякункі жонкі фундатара.

Мосарскі касцёл пабудаваны ў неакласічным стылі, аднанефавы, формай і выглядам унутры ўзгадвае падабенства да палацавай залы. Сцены аздобленыя раслінnымі арнаментамі і адмыслова зробленымі рэзьбамі, якія прадстаўлялі чатырох Евангелістаў, дванаццаць Апосталаў і сцэну хросту Пана Езуса, якія захаваліся і да сёняшняга часу.



Герб Стрэмя (польск. Strzemię), зацверджаны ў 1330 г. Да гербу Стрэмя належыў шляхецкі род Бжастоўскіх.

Святкаванне ва ўспамін святых Яўхіма і Ганны, бацькоў Найсвяцейшай Панны Марыі, у гэтым годзе адбудзецца ў нядзелю 31 ліпеня ў 13 гадзін, на якое ўсіх сардэчна запрашаем!

# Фэст у Лучаі – у суботу

**Кс. Мікалай ЛІПСКІ,**
*пробашч лучайскага касцёла.*

**Захоўваючы традыцыі мінулых пакаленняў, парафіяльны фэст Святой Ганны ў Лучаі (Пастаўскі раён) ладзім у суботу, 30 ліпеня.**

Спадзяюся, што прыхільнікі нашай святыні і тыя, хто верыць у заступніцтва Святой Ганны, знойдуць час і магчымасць прыбыць на гэту ўрачыстасць. Пачатак святой Імшы ў 18 гадзін. Падчас яе біскуп Віцебскай дыяцэзіі Уладзіслаў Блін удзеліць падрыхтаваным вернікам сакрамант Канфірмацыі. Затым адбудзецца канцэрт маладзёжнай групы хрысціянскага року "Тэзаўрус" з Мінска і вакальна-інструментальнага ансамбля "Скіфы" з Пастаў. Цікавымі будуць гулянні і розныя забавы. Будзе магчымасць падсілкавацца шашлыкамі і іншымі прысмакамі. На заканчэнне, як звычайна, адбудзецца феерверк.



Касцёл Святога Тадэвуша ў Лучаі.

Сардэчна запрашаю ў Лучай духоўна адпачыць, памаліцца і атрымаць патрэбныя ласкі праз заступніцтва Святой Ганны.

# Кардынал Казімір Свёнтэк адышоў у вечнасць

**21 ліпеня а 9-й раніцы на 97-м годзе жыцця адышоў у вечнасць кардынал Казімір Свёнтэк. Памолімся аб вечным супакоі ахвярнага пастыра нашай зямлі.**



Кардынал Казімір Свёнтэк нарадзіўся 21 кастрычніка 1914 г. у Эстоніі ў Валзе, ахрышчаны быў у Рызе. Калі яму было 3 гады, яго сям'ю саслалі ў Сібір. Пасля заканчэння Вышэйшай духоўнай семінарыі ў Пінску 8 красавіка 1939 г. у тамтэйшай катэдры ён быў высвечаны на святара і скіраваны на працу ў Пружаны. У выніку праследавання рэлігіі ён быў арыштаваны і асуджаны на смерць. Два месяцы знаходзіўся ў камеры смерці. Вайна, якая распачалася ў 1941 г., перашкодзіла выканаць прысуд. Аднак у 1944 г. малады святар зноў быў арыштаваны і асуджаны на 10 гадоў лагераў, дзе цяжка працаваў спачатку ў Сібіры, а потым за Палярным кругам у Інце каля Варкуты.

Вызваліўшы на волю ў 1954 г., ён апынуўся ў Пінску. Нарэшце настала доўгачаканая хваліна, калі можна было адправіць святую Імшу ў касцёле.

Дзякуючы самааданай і ахвярнай працы ксяндза Казіміра Свёнтка адбудавана пінская катэдра — напэўна, гэта была адна з першых адбудаваных святыняў на Беларусі. Адбудоўваючы пінскую катэдру, ксёндз Казімір перадусім думаў і рабіў усё магчымае, каб будаваць жывы Касцёл — Народ Божы, жывымі камянямі якога з'яўляюцца вернікі.

Канец 80-х і пачатак 90-х гадоў прынеслі доўгачаканую свабоду рэлігіі.

Пастырская актыўнасць кс. прэлата Казіміра Свёнтка, яго адданасць справе Касцёла, незвычайныя арганізатарскія здольнасці, аўтарытэт і пашана сярод святароў не засталіся незаўважанымі Апостальскаю Сталіцаю. Святы Айцец Ян Павел II у 1991 г. прызначыў яго першым Мітрапалітам новастворанай Мінска-Магілёўскай Мітраполіі і Апостальскім Адміністратарам Пінскай дыяцэзіі.

Ва ўзросце 77 гадоў новы Мітрапаліт распачаў сваё біскупскае служэнне.

Ён візітуе парафіі, устанаўлівае дэканаты, стварае патрэбныя для Касцёла структуры, бароніць правы вернікаў, актыўна ўдзельнічае ў Сінодзе Біскупаў у 1991 г., у пасяджэннях Рады Канферэнцыі Біскупаў Еўропы і іншых касцёльных арганізацыях, у міжнародных форумах, канферэнцыях і г. д. Ён з'яўляецца сведкам праследавання каталіцкай веры і яе адраджэння на Беларусі.

У 1994 г. Святы Айцец Ян Павел II надае яму тытул кардынала — найвышэйшая адзнака, якая можа быць у Касцёле. Гэта прызнанне заслугаў не толькі таленавітага святара і біскупа, але і мужнага сведкі веры. Гэта таксама прызнанне пазіцыі Касцёла на Беларусі і ягонай ролі ў сусветным Касцёле.

Кардынал Свёнтэк яшчэ з большай энергіяй і адвагай складае праграму адраджэння духоўнасці і падрыхтоўкі Каталіцкага Касцёла ў Беларусі да Вялікага Юбілею 2000 года. У гэтай праграме асаблівае месца прысвечана розным пастырскім праграмам, адбудове святыняў і найперш мінскай архікатэдры, а таксама працы Сіноду Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіі Пінскай і Віцебскай (якая далучылася да Сіноду пасля яе ўтварэння) дыяцэзіі, які кардынал распачаў у 1996 г. Знамянальны дэвіз Сіноду: «Усё аднавіць у Хрысце».

11 лютага 1999 г. кардынал Казімір Свёнтэк быў абраны першым Старшынёй Канферэнцыі Каталіцкіх Біскупаў у Беларусі — гэта падкрэслівае яго вядучую ролю ў Касцёле і ў краіне.

27 верасня 2004 г. Святы Айцец Ян Павел II уручыў кардыналу Казіміру Свёнтку, арцыбіскупу Мітрапаліту Мінска-Магілёўскаму, спецыяльную ўзнагароду «Fidei testis» (Сведка веры), прысуджаную Інстытутам Паўла VI.

14 чэрвеня 2006 г. Святы Айцец Бэнэдыкт XVI прыняў прашэнне аб вызваленні ад пастырскага кіраўніцтва Мінска-Магілёўскай архідыяцэзіяй, прадстаўленае Яго Эмінэнцыяй кардыналам Казімірам Свёнткам у адпаведнасці з Кодэксам Кананічнага Права, кан. 401, § 1.

21 ліпеня 2011 года а 9 гадзіне Кардынал Казімір Свёнтэк адышоў у вечнасць.

***Паводле пп.by***

# 26 ліпеня праваслаўная царква ўшанавала памяць святых Віленскіх мучанікаў



26 ліпеня — дзень памяці мучанікаў Антонія, Іаана і Яўстафія Віленскіх. У гэты дзень у 1946 годзе мошчы святых мучанікаў Віленскіх былі вернуты з Масквы ў Вільню. У гэты самы дзень у 1993 годзе адбылося перанясенне часцінкаў мошчаў Віленскіх мучанікаў у ікone з Віленскага Свята-Духава манастыра ў Мінскі Свята-Петра-Паўлаўскі сабор, левы прыдзел якога асвячоны ў гонар Антонія, Іаана і Яўстафія Віленскіх. За апошнія гады ў Беларусі асвячона некалькі новых храмаў у гонар Віленскіх мучанікаў.



# Ксёндз ганяў на матацыкле, аж пыл курэў

Памёр кардынал Казімір Сьвёнтак.

У беларускім духоўным жыцьці гэта была асоба станоўчая. Станоўчасьць яго выяўлялася найперш у лаяльнасьці да беларускага Адраджэньня і беларускай мовы ў касьцёле. Кардынал-паляк нідзе, праўда, голасна не выяўляў сваёй падтрымкі беларушчыне, але ён нідзе і не перашкаджаў, не выступаў з філіпікамі, ня ганіў, не казаў няпраўду.

Ён быў асьцярожным дыпляматам, які не пярэчыў прыродзе рэчаў. І ўжо за гэта яму вялікі дзякуй.

На пераломе 60-70-х гадоў я быў у складзе творчай групы (Валянцін Ждановіч, Уладзімер Караткевіч і я), якая здымала і пісала пра касьцёл Францысканцаў у Пінску. Там мы пазнаёміліся зь негаваркім, заклапочаным ксяндзом Сьвёнткам і два дні працавалі ў касьцёле Францысканцаў. Ксёндз паказваў усё, што мы прасілі, а ў канцы запрасіў нас да сябе ў госьці на абед.

Пабываўшы ў ягонай хаце, мы зразумелі, што ксёндз – асоба няпростай біяграфіі і суровага лёсу. Сьвёнтак сказаў нам тады, дзе ён быў у 40-х і як вярнуўся з ГУЛАГу жывым. Памятаю таксама, што я зьвярнуў увагу на яго заняткі і пабочныя інтарэсы.

Ксёндз ганяў на двухцыліндровым матацыкле аж пыл курэў, фатаграфаваў ваколіцы, здымаў на кінакамэру аматарскія фільмы, фільмаваў туманы і золак над Пінаю.

Гаварыў ён няшмат і нічаму не даваў сваіх ацэнак. Але ў міжчасьсі адчыніў, відаць, адмыслова падрыхтаваную да нашага прыходу, тэчку з паперамі і паклаў перад намі нейкі касьцельны дакумант ці не з XVI-га стагодзьдзя, напісаны пастарабеларуску на пажоўклай порыстай паперы. Сэрцы нашыя затрымцелі. Сьвёнтак маўчаў.

Дыпляматычныя якасьці і вопыт перажытага дарэчна спатрэбіліся яму пазьней. Але што я заўважыў яшчэ ў ім тады — гэта адсутнасьць фанатызму і пакліканьне веры (рысы ўзаемазьвязаныя). Відаць, яны найбольш і паспрыялі той характэрнай станоўчай ягонай ролі ў адраджэньні і разьвіцьці каталіцкага касьцёла ў Беларусі.

Вечны супачынак дай яму, Божа. Ён застанецца ў памяці беларусаў з павагай, пашанай і добрымі ўспамінамі.

***22 ліпеня 2011 г. Зянон ПАЗЬНЯК***

■ **Алесь Гай,**
*г. Глыбокае, чытач «ВГ».*

# Хто спыніць лясных браканьераў?

**Практычна кожны год "Вольнае Глыбокае" друкуе мае артыкулы на гэтую тэму. А матэрыялы начальніка Глыбоцкай міжраённай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету А.В.Протаса з добры дзясятак. А ці ёсць карысць ад гэтых артыкулаў? Шчыра кажучы – нуль.**

Пачну з таго, што чатыры разы быў у "Чорным ручаі" на зборы чарніц. Такога пагрому, інакш і не скажаш, з боку лясных драпежнікаў за апошнія гады я яшчэ не бачыў. У чэрвені пяцілітровае вядро ягад прадавалі па сто тысяч рублёў. Літровы слоік каштаваў 20 тысяч рублёў. Добры заробак. Практычна 150-200 тысяч рублёў можна зарабіць. Вось і кінуліся нашы глыбоцкія лясныя браканьеры з камбайнамі ў лес. На днях, будучы ў "Чорным ручаі", бачу: у 12 гадзін дня ў жанчыны пад кустом стаяла два вядры чарніц з лісцямі. Жудасна ўсё гэта бачыць. Жудасна. Як быццам апошні год жывём на гэтым свеце. Ці з другой планеты прыбылі. У кожнага такога "камбайнера" ёсць дзеці, унукі. Што мы ім пакінем? Неяк у размове з А.В.Протасам ён сказаў, што спыніш такога лясного драпежніка – становіцца на калені і аб чым толькі не просіць, што гэта апошні раз і першы раз з камбайнам, няма грошай на хлеб. Потым бачыш: выходзіць гэты чалавек, садзіцца ў дарагую іншамарку.

А мы ўсё шкадуем гэтых лясных драпежнікаў. Няма такіх пагромаў у Пастаўскім, Докшыцкім, Шаркоўшчынскім раёнах. Многія глыбачане паставілі гэта на прамысловую аснову – дзяржаўны лес. Падаткаў ніхто не плаціць за гэты заробак, а заробак немалы. Ніякай справы да гэтага няма нікому. Дзіву даешся, што гэта не хвалюе работнікаў лясгаса. Ніякіх рэйдаў работнікі лясгаса па затрыманні лясных браканьераў не праводзяць, няўжо цяжка хоць на асноўных уваходах у лес паставіць шыльды. Каб кожны зборшчык ведаў парадак зборкі ягад і колькі гэта будзе каштаваць ляснохму "камбайнеру". Няўжо гэта патрэбна толькі аднаму А.В.Протасу?



**Галубіцкая пушча, 2009 г. Інспектар Уладзіслаў Кабылінскі складае пратакол на пазапраўны збор ягадаў «камбайнам». Патрапіла жыхарка Малых Давыдак с-ня Л...віч.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

Можна паставіць пытанне і раённай уладзе. Хто навядзе парадак на прыёмных пунктах? У Падсвіллі, Давыдках арганізавана некалькі прыёмных пунктаў з другіх раёнаў, нават з другой вобласці. Ёсць у нас у раёне нарыхтоўчая кантора, у вялікіх населеных пунктах магазіны. На маю думку, павінна быць толькі дзяржаўная нарыхтоўка.

Я так і не разумею, каму гэта выгадна: прымаць чарніцы, сабраныя камбайнам з лісцем, зялёныя. Магчыма, раённай уладзе патрэбна ўстанавіць і тэрміны збору чарніц.

Спаткаў знаёмую жанчыну. Аматар збору ягад. Ніколі не карыстаецца камбайнамі. Дык вось што яна сказала. У раёне Мосарскага лесу ўжо чацвёрты год няма чарніц. І ўсё гэта работа лясных браканьераў-камбайнераў. На маю думку, праз гадоў дзесяць мы будзем лічыць чарніцы не вёдрамі, а паштучна.



**Так званы «камбайн» (у вядры), які нявечыць ягаднікі на гады.** *Фота Ул. Скрабатуна.*

Паважаныя глыбачане, любіце свой край, сваё лясное багацце. Не апошні год вы жывяце на гэтым свеце.

Напрыканцы хацеў бы звярнуцца да старшыні нашага райвыканкама А.В.Морхата. Паважаны А.В.Морхат, Вы так многа робіце для горада, раёна. Дапамажыце ў гэтай справе навесці парадак.

# Віншаванкі

*Настассю Адамовіч*

**Віншуем з днём нараджэння!**

С Днем рожденья, дорогая,
Поздравляем от души.
Тост поднять за твое счастье
Мы давно уже спешим.
Пусть уходят все невзгоды
И печали все уйдут,
Только радость тебе, Настя,
Твои годы пусть несут.
Будь веселой, и счастливой,
И красивой - как сейчас.
Пусть сопутствует удача
Каждый день и каждый час.



*Мама, цёця. бабуля, дзядуля.*

**Насця Адамовіч**
**Віншуе свайго стрыечнага брата**

*Антошку*

**з днём нараджэння!**

Пусть подарит тебе день рождения
От удачи и счастья ключи,
Замечательное настроение
И улыбки, как солнца лучи.
Пусть сегодня хорошее сбудется,
Станет жизнь весела и прекрасна,
И пускай этот день не забудется,
А останется в памяти сказкой!



*Ігара Іванавіча Скрабатуна*

**Віншуем з 45-годдзем!**

Поздравляю с днем рожденья!
Желаю счастья и везенья,
Во всем удачи, настроенья,
Любви, взаимности, тепла,
Чтоб рядом были лишь друзья,
Чтоб все твои желанья сбылись
И все тревоги позабылись.



*Брат Уладзімір*

■ **А.В. Протас,**
*начальнік Глыбоцкай міжраёнскай інспекцыі аховы жывёльнага і расліннага свету.*

# З другой суботы жніўня можна паляваць на качак

**Набліжаецца адкрыццё летнеасенняга сезону палявання на вадаплаўную і балотную дзічыну, адкрываецца ён з другой суботы жніўня і доўжыцца па другую нядзелю снежня, паляванне дазволена толькі ў светлы час сутак. Спосаб палявання стрэльбавы, у тым ліку з паляўнічымі сабакамі, з падыходу, з засады, з падманьваннем, з пад'езда з маломерных судоў.**

Грамадзянам, якія маюць права на паляванне, неабходна памятаць і ведаць, што паводле п. 192 Правілаў вядзення паляўнічай гаспадаркі і палявання паляванне можна праводзіць пры наяўнасці наступных дакументаў:

- сапраўднага дзяржаўнага пасведчання на права палявання, з выплачанай дзяржпошлінай,
- дазволу органаў унутраных спраў на захоўванне і нашэнне паляўнічай зброі пры паляванні з яе выкарыстаннем,
- паляўнічай пуцёўкі або разавага дазволу на здабычу паляўнічай жывёлы і паляўнічай пуцёўкі да яго,
- пры выкарыстанні на паляванні паляўнічых сабак неабходна мець сапраўдныя дакументы ўсталяванага ўзору на сабак.

У выпадку адсутнасці хоць бы аднаго з пералічаных вышэй дакументаў правядзенне палявання і знаходжанне ў паляўнічых угоддзях забараняецца, вінаватыя нясуць адміністрацыйную або крымінальную адказнасць.

Не лішнім будзе нагадаць паляўнічым некаторыя меры бяспекі пры выкарыстанні паляўнічай зброі:

- забараняецца ажыццяўляць стральбу па паляўнічых жывёлах з гладкаствольнай зброі на адлегласці больш за 50 метраў,
- пры перамяшчэнні на ўсіх відах транспартных сродкаў паляўнічая зброя павінна быць зачахлёная,
- **паляўнічая стрэльба павінна быць разраджаная** пры пераадоленні на паляванні розных перашкод, пераходзе па кладках праз рэчкі, раўчукі,
- падыходзе да населенага пункта, месцу прывалу і збору,
- пры сустрэчы са службовай асобай органа паляўнічага кантролю, органаў унутраных спраў, службовымі асобамі карыстальніка паляўнічых угоддзяў, Гэта толькі малая частка мер бяспекі пры выкарыстанні паляўнічай зброі на паляванні, ад выканання і забеспячэння ўсіх мер бяспекі залежыць жыццё не толькі самога паляўнічага, але і жыццё іншых грамадзян. На жаль, невыкананне мер бяспекі часам прыводзіць да трагедыі.

Пра ўсе парушэнні прыродаахоўнага заканадаўства Вы можаце паведаміць на тэлефон «гарачай лініі» Глыбоцкай міжрайінспекцыі : 8-02156-28670, мабільныя тэлефоны інспектараў: 897-23-02, 890-55-28, 249-45-49 (МТС).



## У Лепельскім раёне забіты інспектар аховы Бярэзінскага запаведніка

У лясным масіве непадалёк ад вёскі Дражна Лепельскага раёна ноччу 15 ліпеня быў забіты 35-гадовы інспектар аховы Бярэзінскага нацыянальнага запаведніка. Пра гэта БелаПАН паведамілі ў праваахоўных органах.

Злачынства падчас незаконнага палявання ўчыніў 37-гадовы раней судзімы непрацуючы жыхар Лепеля. Ён страляў з незарэгістраванай паляўнічай стрэльбы ІЖ-26. Падазроны затрыманы.

*Вячаслаў Будкевіч, БелаПАН*

# ТЭЛЕТЫДЗЕНЬ "Вольнага Глыбокага"

**1 – 7 жніўня 2011 г.**



Вы можаце падаць сваю прыватную абвестку і па хатнім тэлефоне на нумар 166 кругласутачна. Вырэзаць назавіце газету. У дадзеным выпадку – "Вольнае Глыбокае".

Кошт абвесткі аб'ёмам да 5 слоў – 2500 р.



## ПАНЯДЗЕЛАК, 1 жніўня



**07.00, 08.00** (с сурдопереводом), **09.00, 12.00, 15.00, 19.00, 23.40** Новости.
**06.00, 07.10, 08.15** Доброе утро, Беларусь!.
**07.05, 08.05** Зона Х. Дорожные новости.
**07.30, 08.25, 11.50** «Деловая жизнь».
**08.30** «Горожане-2011»: Анкара.
**09.10 "Маргоша"**
**10.05** «Звездная жизнь» (Украина). Фильм «Звездные усыновления».
**11.00 "Маруся. Возвращение"**
**12.10 "Маша и море"**
**13.45** Синематека.
**14.30** Nota Bene.
**15.15, 19.20** Новости региона.
**15.35** «Здоровье».
**16.00** Требуется.
**16.15** «В поисках истины» (Украина). Фильм «Черный перстень Анны Ахматовой».
**17.05** Сериал **"Маршрут милосердия"** (Россия).
**17.55 "Маруся. Возвращение"**
**18.50** «Зона Х».
**19.35** Арена.
**19.55 "Маргоша"**
**21.00** «Панорама».
**21.40** «Командировка».
**21.55** На экране – боевик. «Руслан» (США-Канада).
**23.55** День спорта.
**00.05** «В поисках истины» (Украина). Фильм «Нострадамус из Дрогобича».



**06.00, 09.00** Наши новости.
**06.05** «Наше утро».
**09.05** Контуры.
**10.10** «Смак».
**11.00** Наши новости.
**11.05** Новости спорта.
**11.10 «Любительница частного сыска ДашаВасильева»**
**11.55** «Детективы».
**12.30** «Детки в клетке».
**13.00** Наши новости.
**13.05** Новости спорта.
**13.10** «Контрольная закупка».
**13.45** «Модный приговор».
**14.50** «Понять. Простить».
**15.25** «Хочу знать»
**16.00** Наши новости (с субтитрами).
**16.10** Новости спорта.
**16.15 «Обручальное кольцо»**
**18.00** Наши новости.
**18.15** Новости спорта.
**18.20 «Счастливы вместе»**
**18.55** «Жди меня».
**20.00** Время.
**20.30** Наши новости.
**21.00** Новости спорта.
**21.05** Премьера. **«Последняя встреча»**
**22.10** Владимир Гостюхин, Ольга Арнтгольц в многосерийном фильме **«В лесах и на горах».**
**23.05** «Люди дождя».
**00.00 «Крем»**
**01.35-01.55** Ночные новости.



**07.00** «ЛАДное утро».
**08.00** Телебарометр.
**08.05 "Ты моя жизнь"**
**08.55 "Журов-2"**
**09.55** Альбарутения.
**10.20** «Лабірынты: ваенная слава і бясслаўе Быхаўскага замка».
**10.50** Пра мастацтва.
**11.15** «Навіны надвор'я».
**11.45** Конкурс-викторина «Дети нового поколения». Одиннадцатые классы. Первый полуфинал.
**12.45** Реальный мир.
**13.15** «Хали-гали». Скетч-шоу.
**13.35** «Час суда. Дела семейные».
**14.35** Комедия для всей семьи **«Бешеные скачки»** (США).
**16.20** Врачебные тайны с доктором А.Терещенко.
**16.50** Врачебные тайны +.
**17.05 "Анатомия Грэй5"**
**17.55 "Ты моя жизнь"**
**19.00 "Журов-2"**
**20.00** Женская лига.
**21.00** Калыханка.
**21.15** Телебарометр.
**21.20** КЕНО.
**21.25** Спортивная драма **«Кобб»** (США).
**23.40 "Анатомия Грэй5"**
**00.25** Реальный мир.



**06.00** «24 часа».
**06.10** «Минщина».
**06.20** «Утро.».
**07.30** «24 часа».
**07.40** «СТВ-спорт».
**07.45** «Утро.Студия хорошего настроения».
**08.30** «Неделя».
**09.30** «Большой завтрак».
**10.05** «Зеленый огурец. Полезнаяпередача».
**10.30** «24 часа».
**10.40 «Наши соседи»**
**11.45** «Званый ужин».
**12.35** «Большой город».
**13.10** «Дальние родственники».
**13.30** «24 часа».
**13.50** «Звездный ринг».
**14.45** Концерт Задорнова.
**16.00**«Япутешественник».
**16.30** «24 часа».
**16.50** «Репортерские истории».
**17.10** «Наше дело».
**17.20** «Минщина».
**17.30** «Званый ужин».
**18.30 «Огонь любви»**.
**19.30** «24 часа».
**20.00** «Столичные подробности».
**20.10** «СТВ-спорт».
**20.15** «Добрый вечер, малыш».
**20.25**«Кинопонедельник»: Дмитрий Харатьян, Эрик Робертс и Анастасия Меськова в фильме **«АВРОРА»**. Украина, 2006г.
**22.30** «24 часа».
**22.55** «СТВ-спорт».
**23.00** «Столичный футбол».
**23.30** «Тайны мира с Анной Чапман».



**7:00** Тыдзень у «Аб'ектыве»
**7:40 "Праведнікі"**: 1 серыя
**8:25** Чаму дэмакратыя? 9 серыя: «Крывавыя карыкатуры»
**9:20** Басанож па свеце
**9:45** На колах
**10:20** Прыватная калекцыя
**10:45** Без рэтушы: «Радаводны знак» дак. фільм, 2009 г., Польшча
**11:05** «Грыф: звышсакрэтна» , дак. фільм, 2007 г., Нямеччына: 3 серыя, «Выпрабаванне глабалізацыяй»
**11:50** Моўнік
**12:00** Аб'ектыў
**12:05 "Знакамітасць"**
**13:55 "Праведнікі"**: 1 серыя
**14:40** Чаму дэмакратыя? 9 серыя: «Крывавыя карыкатуры»
**15:30** На колах
**16:00** Без рэтушы: «Радаводны знак» дак. фільм, 2009 г., Польшча
**16:20** Эксперт
**16:35** Прыватная калекцыя
**17:00** Аб'ектыў
**17:05 "Ранча Піковая Сямёрка"**: 29 серыя
**17:30 "Праведнікі"**: 1 с
**18:20 "Від з дзясятага паверху"**
**19:10** Побач з намі
**19:30** Аб'ектыў
**19:35** Калыханка для самых маленькіх
**19:40** Беларусы ў Польшчы
**19:55** Гісторыя пад знакам Пагоні
**20:05** Еўропа сёння
**20:40** Эксперт
**21:00** Аб'ектыў
**21:25** Героі не нашага часу: Браты Жлобы. Так мінае зямная слава
**21:45 "Знакамітасць"**
**23:35** Аб'ектыў

